Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 60 (5391)
Чацвер, 23 мая 2002 года

## Прэзідэнт сустрэўся з пераможцамі міжнародных алімпіяд

21 мая Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з вучнямі — пераможцамі і прызёрамі міжнародных алімпіяд 2001 года, лаўрэатамі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных вучняў і студэнтаў.

НА ЗДЫМКАХ: Аляксандр Лукашэнка ўручае пасведчанне і нагрудны знак лаўрэата спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных вучняў і студэнтаў студэнтцы І курса біяфака БДУ Святлане Марозавай; падчас сустрэчы.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА.**





Харчаванне школьнікаў

## Спадзеў на поспех

***Штогод (звычайна вясною) у Мінску ладзіцца гарадскі конкурс на лепшую школьную сталовую. Сёлета гонар прадстаўляць Кастрычніцкі раён сталіцы выпаў сярэдняй школе № 97.***

За чвэрць стагоддзя (у верасні школе спаўняецца 25 гадоў) адбылося шмат змен. За гэты час у школьнай сталоўцы апрабіраваліся розныя формы арганізацыі харчавання школьнікаў.

Сёння пры сталовай задзейнічана кафэ "Космас". Яно вабіць вучняў сваім інтэр'ерам, сучасным абсталяваннем. А галоўнае – асартыментам фірменных страў. Іх аздабляе кактэйль "Зоркавы".

У нашай школе культура харчавання з'яўляецца важнай часткай комплексна-мэтавай праграмы "Школа № 97 – школа здароўя".

У дзень, калі нас наведалі прадстаўнікі журы-агляду, тут быў зладжаны аўтаномны конкурс страў, які падрыхтавалі вучні. Яны імкнуліся здзівіць гасцей. І, трэба сказаць, дамагаліся гэтага. Акрамя "касмічных" страў яны прапанавалі гасцям і іх рэцэпты. Дырэктар школы Ларыса Сяргееўна Бусел і яе наméснікі А.В.Бясчотнава і В.П.Бандарынава расказалі журы пра падрабязнасці арганізацыі сталавання школьнікаў. Яны паведамілі, што гарачым харчаваннем ахоплена больш за 90 працэнтаў вучнёўскага калектыву.

Зразумела, не абышлося і без дэгустацыі страў, на якую гасцей запрасіла загадчыца раённага камбіната школьнага харчавання І.А.Ангерчык.

Прыдзірлівае журы засталося вельмі задаволеным, станоўча адзначыла працу персаналу сталовай, і найперш – Валянціны Уладзіміраўны Аўсіевіч.

Пэўны ўклад у арганізацыю школьнага сталавання, асабліва ў плане матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, робяць спонсары, у прыватнасці завод "Керамін".

У хуткім часе вынікі агляду-конкурсу будуць падведзены. Маем надзею, што кафэ-сталовая школы № 97 будзе адзначана.

**Ганна ПУШКАРЭВІЧ, настаўніца.**

Міжнародныя кантакты

## Доўга будзе Бургундыя сніцца...

Гады тры таму назад, на вакзале, за якую гадзіну да адпраўлення цягніка на Парыж, давялося мне браць інтэрв'ю у французскіх школьнікаў і іх настаўнікаў, якія гасцявалі ў Мінску, дакладней - у вучняў сярэдняй школы № 148 сталіцы.

Дапамагалі мне, асісціравалі, як запраўскія перакладчыкі, вучні-старшакласнікі 148-й.

Памятаю, мяне падсвядома пранізала адчуванне: вось ён у наяўнасці, плён якасці адукацыі, пра якую шмат гаворкі. Як у прэсе, так і на пасяджэннях розных рангаў.

А вось выкладчыкі 148-й змаглі паставіць справу так, што старшакласнікі (няхай пакуль на побытавым узроўні) здольныя перамаўляцца з франкамоўнымі раўналеткамі з замежжа. Ды, мяркую, не разгубяцца на вуліцы, у магазіне, на вакзале...

Знак якасці адукацыі, характэрны для школы, засведчыла, абмоўлюся, своеасаблівая прэс-канферэнцыя-справаздача, якую зладзілі вучні: яны на тым тыдні вярнуліся з Францыі, з правінцыі Бургундыя - горада Невера.

19 школьнікаў з настаўніцамі Тамарай Пятроўнай Кірык (кіраўнік дэлегацыі) і Ірынай Паўлаўнай Трахачовай гасцявалі ў сваіх французскіх сяброў - ліцэі Ален Каля.

Адмысловую канферэнцыю распачала Тамара Пятроўна расчулым аповедам пра падарожжа. Зразумела, яе перапаўнялі эмоцыі, хваляванне, пачуццё гонару за сваіх выхаванцаў, якія паказалі французскім аднагодкам, іх педагогам належныя адукацыйны ўзровень, выхаванне, сапраўдны беларускі характар - уласцівыя нашай нацыі талерантнасць, спагаду, памяркоўнасць, тактоўнасць.

Падарожжа прадэманстравала выключную еднасць вучняў, згуртаванасць. Мужчынская палова дэлегацыі — хлопчыкі — паказалі, калі хочаце, інтэлігентнасць, джэнтльменства ў адносінах да жаночай.

Васьмікласніца Вольга Літвінец была па-дзявочаму шчырай і ўзнёслай, калі расказвала пра экскурсію ў Парыж:

- Я марыла ўбачыць яго, пахадзіць па плошчах, вуліцах знакамітага горада, які на кожным кроку ўражвае архітэктурай, добразычлівымі, непасрэднымі ў паводзінах парыжанамі.

Адна справа чытаць пра Луўр і зусім іншая - пахадзіць па яго залах, адчуць подых стагоддзяў, які зыходзіў з твораў, што прыгожаць музей.

Яраслаў Куфлінскі (9"А" клас) быў паэтычна настроены, калі расказваў, што ўяўляе сабою французская правінцыя - дагледжаныя домікі, акуратнасць тэрыторыі вакол іх, густ, які спадарожнічае французам.

Нельга было не заўважыць агеньчык светлай зайздрасці ў прысутных вучняў, калі Павел Тананыкін распавядаў пра экскурсію ў горад Шарытэ на Луары. Яго ўразіла абаронная званіца. З мясцінамі Шарытэ звязаны і асобныя эпізоды легенды пра слаўную дачку французскага народа Жанну д'Арк.

Ну, а найбольш па часе затрымала ўвагу сяброў васьмікласніца Мілана Рачко. Дзяўчына зацікавіла іх расказам пра ліцэй Ален Каля, яго бібліятэку, класныя пакоі, камп'ютэры, якія з'яўляюцца неад'емнай, натуральнай часткай навучальнай установы.

А як цёпла, па-добраму, узрушана і зычліва распавядалі старэйшыя школьнікі пра поспех, які выпаў чацвёртакласніцы Анечцы Трахачовай, якая заўсёды здзіўляла ліцэістаў з Невера сваім французскім маўленнем...

Адным словам, васьмікласнікі Вольга Краснова і Павел Рэйба, дзевяцікласнік Алёша Твардоўскі без перабольшання далі мне зразумець, што ім і сябрам, якім пашчасціла наведаць Францыю, доўга будзе Бургундыя сніцца...

Дырэктар школы Галіна Вячаславаўна Манкевіч нават падзякавала шчаслівучыкам:

- Вы сваім візітам яшчэ раз даказалі, што якасць адукацыі - гэта праява прыкметная.

**Уладзімір НОВІК.**

***Вы ніколі не зможаце стварыць мудрацоў, калі будзеце забіваць у дзецях гарэзаў.***

**Ж.-Ж.Русо.**

## Зрабіць рэальнасцю дыялог культур

***У Міжнародным гуманітарным інстытуце Белдзяржуніверсітэта адкрыўся Тэхналагічны цэнтр ОРТ - старэйшай і буйнейшай у свеце ня-ўрадавай, нерэлігійнай і некамерцыйнай адукацыйнай арганізацыі.***

Першапачатковая рускамоўная абрэвіятура ОРТ (Общество ремесленного труда) захавалася на працягу больш як стагоддзя, хоць цяпер расшыфроўваецца інакш – як Organisation for Educational Resources and Technology Training ("Адукацыйныя рэсурсы і тэхналагічны трэнінг").

Увогуле гісторыя ОРТа вельмі доўгая і цікавая. Заснаваны ён быў у 1880 годзе ў Санкт-Пецярбурзе як Таварыства рамеснай працы для навучання яўрэйскай моладзі сельскагаспадарчаму і рамеснаму майстэрству. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі ОРТ адкрыў свае школы больш чым у 300 расійскіх гарадах. На пачатку XX стагоддзя яго дзейнасць распаўсюдзілася і ў Еўропе. У Савецкім Саюзе ОРТ быў скасаваны і ў Расію вярнуўся толькі ў 91-м, калі ў Маскве адкрылася яго акрэдытаванае прадстаўніцтва. Сумесна з IBM ОРТ стварыў лабараторыі высокіх тэхналогій у шэрагу гарадоў Расіі, Беларусі, Украіны.

Сёння ОРТ мае вопыт працы больш чым у 70 краінах свету. Штогод у яго школах і каледжах, інстытутах і вучэбных цэнтрах навучаецца больш чвэрці мільёна чалавек, а колькасць выкладчыкаў дасягае дзесяці тысяч. У краінах СНД і Балтыі асноўнымі кірункамі дзейнасці ОРТа з'яўляюцца распрацоўка і ўкараненне зместу і метадаў выкладання тэхналогіі, а таксама выкарыстанне сучасных інфармацыйных тэхналогій у выкладанні розных дысцыплін у сярэдняй адукацыі. Акрамя гэтага, ОРТ сумесна з вядучымі універсітэтамі і грамадскімі арганізацыямі ўдзельнічае ў рэалізацыі праектаў па павышэнню кваліфікацыі настаўнікаў.

І вось ОРТ – у Міжнародным гуманітарным інстытуце БДУ...

Урачыстая цырымонія адкрыцця Тэхналагічнага цэнтра ОРТ у МГІ БДУ адбылася ў сярэдзіне траўня. Студэнтаў, выкладчыкаў і кіраўніцтва інстытута віншавалі ганаровыя госці: Міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Пётр Брыгадзін, першы прарэктар БДУ Алег Яноўскі, Надзвычайны і паўнамоцны Пасол Ізраіля на Беларусі Марцін Пелед-Флекс, Надзвычайны і паўнамоцны Пасол ЗША на Беларусі Майкл Козак, дырэктар Сусветнага ОРТа Роберт Зінгер, дырэктар прадстаўніцтва Сусветнага ОРТа ў СНД і краінах Балтыі Улад Лернер, а таксама спонсар праекта – вядомы амерыканскі мільярдэр і мецэнат Норман Сайдэн.

Міжнародны гуманітарны інстытут БДУ быў абраны для адкрыцця Тэхналагічнага цэнтра ОРТ зусім невыпадкова, бо ён з'яўляецца не толькі вучэбным цэнтрам, але таксама цэнтрам навуковым і культурным. Створаны тры гады назад у выніку плённага супрацоўніцтва Белдзяржуніверсітэта, Амерыканскага аб'яднанага яўрэйскага размеркавальнага камітэта ДЖОЙНТ, універсітэтаў і грамадскіх арганізацый ЗША, Ізраіля, Расіі і іншых краін, МГІ імкнецца зрабіць рэальнасцю ўзаемадзеянне культурна-гістарычных традыцый еўрапейскай і іўдзейскай цывілізацый. Інстытут запаўняе той істотны прабел у айчыннай сістэме вышэйшай адукацыі, які звязаны з асэнсаваннем вопыту яўрэйскай культуры, гісторыі і іншых сфер іўдаікі, і ўвогуле імкнецца стварыць прастору для дыялога культур і розных нацыянальных традыцый. А гэта вельмі актуальна для поліэтнічнай сацыяльна-культурнай сітуацыі Беларусі.

**Іна НІКІЦЕНКА.**

## Настаўнікі-"пачаткоўцы" будуць працаўладкаванымі

***Па стану на 21 мая 40 працэнтаў педагогаў Ліды атрымалі зарплату за красавік. Як паведаміў загадчык гарадскога аддзела адукацыі Віктар Івановіч Русак, да канца месяца выплаты павінны быць зроблены ў поўным аб'ёме. Пытанне з адпускнымі застаецца адкрытым - яно будзе вырашацца на абласным узроўні.***

У горадзе актыўна прапрацоўваецца магчымасць пазабюджэтнай дзейнасці ўстаноў адукацыі. Напрыклад, у Цэнтры развіцця дзіцяці пры дзіцячым садзе № 15 аказваюцца такія паслугі, як заняткі па харэаграфіі, па замежнай мове і інш. 31 верасня наступнага навучальнага года платныя адукацыйныя паслугі будуць аказвацца ў школах. Ці не акажуцца яны непасільным цяжарам для большасці бацькоў? Па словах Віктара Іванавіча, 30 працэнтаў бацькоў згодныя з тым, каб частку сямейнага бюджэту патраціць на рознабаковае развіццё свайго дзіцяці, таму што з цягам часу гэтыя сродкі абавязкова акупяцца.

Зараз у гарадскім аддзеле адукацыі абмяркоўваецца пытанне, як уладкаваць настаўнікаў пачатковых класаў, якія ў сувязі з дэмаграфічнымі праблемамі застаюцца без работы. Гэтая праблема стаяла і летась, але працу ніхто не страціў. Настаўнікі пачатковых класаў будуць выкладаць фізічную культуру (многія маюць адпаведную кваліфікацыю), працаваць у групах прадоўжанага дня, педагогамі-арганізатарамі. Некаторыя з іх праходзяць перападрыхтоўку. А ўвогуле ў апошнія гады на замену маладых настаўніц на час знаходжання ў адпачынках па догляду дзіцяці да дасягнення ім узросту трох гадоў імкнуліся прымаць пенсіянераў, а не новых супрацоўнікаў. Гэта дапамагло пазбегнуць масавых скарачэнняў.

**Ала ШАЎЦОВА.**

Семінары

## З любоўю да роднай мовы

***У сярэдняй школе № 12 Жлобіна адбыўся семінар настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры Жлобінскага раёна.***

Адкрыла семінар метадыст раённага аддзела адукацыі Святлана Пятроўна Дашкоўская, якая паведаміла пра мэты мерапрыемства: праблемнае навучанне, маральна-ідэйнае і эстэтычнае выхаванне, абуджэнне любові да беларускай мовы. Інфармацыю пра выкарыстанне настаўнікамі сярэдняй школы № 12 новых педагагічных тэхналогій, а менавіта пра арганізацыю праблемнага навучання і выкарыстанне французскай педагагічнай майстэрні, прывяла прысутным кіраўнік метадычнага аб'яднання настаўніцкай славеснасці сярэдняй школы № 12 Алена Мікалаеўна Табала. Удзельнікі семінара азнаёміліся і з распрацоўкамі настаўнікаў школы-гаспадыні, якія былі сабраны на выстаўцы творчых дасягненняў.

А затым увазе гасцей сярэдняй школы былі прадстаўлены фрагменты васьмі ўрокаў на любы густ: менавіта восем настаўнікаў выкладаюць родную мову і літаратуру ў гэтай навучальнай установе.

Пра сваю работу па праблемнаму навучанню на прыкладзе творчасці Сяргея Грахоўскага расказала настаўніца Жанна Леанідаўна Малыхіна. Яе выхаванцы выразна чыталі лірыку гэтага паэта, умела аналізавалі вершы, актыўна ўдзельнічалі ў абмеркаванні праблем, якія закранаў у сваёй творчасці Сяргей Грахоўскі.

Другім свой урок прадстаўляў настаўнік беларускай мовы і літаратуры Уладзімір Нікіфаравіч Шугалееў. Педагог на высокім узроўні арганізаваў работу па мастацкаму асэнсаванню праблем калектывізацыі ў аповесці Васіля Быкава "Аблава". На прыкладзе гэтага твора мастацкай літаратуры настаўнік здолеў вельмі даходліва раскрыць усю супярэчлівасць духоўных шуканняў сялян, усю іх трагедыю пры абагульненні сельскай гаспадаркі. Вучні пасля такога ўрока сталі яшчэ лепш разумець гісторыю – гэта было відаць па іх змястоўных адказах на самыя складаныя пытанні.

Настаўніца Святлана Васільеўна Дымава паказала ўдзельнікам семінара сваё непаўторнае бачанне сэнсу паэзіі ў жыцці чалавека, заклікаючы сваіх вучняў больш глыбока разумець слова, адчуваць усё багацце яго адценняў.

А на ўроку настаўніцы Людмілы Сцяпанаўны Літвінавай вучні самі сталі на нейкі час пісьменнікамі, зразумеўшы, наколькі цяжкая гэтая праца, якая патрабуе не толькі добрага ведання мовы, але і разумовага напружання, палёту фантазіі і жадання ўнесці свой уклад у літаратурную скарбонку Беларусі.

Пра моц сказанага слова, чысціню вымаўлення, правільнае выкарыстанне лексікі гаварыла на сваім уроку педагог Наталля Іванаўна Купрацэвіч. І зноў жа, у чарговы раз, з вуснаў вучняў гучала багатая літаратурная мова, яны ўмела карысталіся ўстойлівымі словазлучэннямі і вобразнымі сродкамі.

А выхаванцы Алены Леанідаўны Марушкевіч ужо на школьнай сцэне паказалі ўрывак з п'есы Янкі Купалы "Паўлінка". Апроч таго што вучні сталі добрымі артыстамі, яны вельмі таленавіта змаглі раскрыць той час, а таксама адлюстраваць побыт беларускага народа.

Работу тэатральнага гуртка ў пятым класе дэманстравала педагог Людміла Аркадзьеўна Якуш, паказаўшы прысутным некалькі яркіх сцэн са школьнага жыцця. Прычым яе вучні вельмі каларытна сыгралі свае ролі, гаворачы на прыгожай беларускай мове (і гэта ўсё пры тым, што ў сярэдняй школе № 12 навучаецца шмат дзяцей, бацькі якіх прыехалі з Расіі).

Цікавую работу па выкарыстанню французскай педагагічнай майстэрні на прыкладзе шляхоў-дарог літаратурных герояў Івана Мележа (Васіля Дзятліка і Ганны Чарнушкі) правяла кіраўнік метадычнага аб'яднання настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры школы Алена Мікалаеўна Табала.

Семінар настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры ўдаўся. Аб гэтым у адзін голас сказалі ўсе яго ўдзельнікі, бо кожны з беларусаведаў, хто працуе ў сярэдняй школе № 12, паказаў, на што ён здольны.

**Аляксандр ІВАНЬКОЎ.**



# Падбярыце просценькі заплечнік...

*Ці не стаміла вас да канца чарговага навучальнага года цяжкая, карпатлівая праца па фарміраванню ў малодшай частцы нашага грамадства прыкмет нармальнага цывілізаванага чалавека? Няпроста зарыентавацца ў моры шматлікіх методык пры пастаянным ціску адміністрацыі з аднаго боку, бацькоў – з другога, вучняў – з трэцяга і ўласнай сям'і – з чацвёртага? Хочаце параду: як дагадзіць усім і даставіць задавальненне сабе? Падбярыце просценькі заплечнік, зручныя абутак і адзенне, невялікі запас правіянту і не забудзьцеся на галоўнае – юнацкі запал, рамантыку падарожжаў і прыгод.*

*Памятайце: старасць – паняцце не фізічнае, не ўзроставае, а сацыяльнае, псіхалагічнае. Дастаткова прыехаць адзін раз на штогадовы рэспубліканскі турыстычны злёт у верасні, каб пабачыць, што каманда ветэранаў турызму (сярэдні ўзрост 60–65 гадоў) дае дыхту на складаных дыстанцыях моладзі. Таму малады вы педагог або настаўнік са стажам, але калі дагэтуль не далучыліся да вялікай арміі аматараў актыўнага турызму – вы проста выкрэслілі з жыцця львіную долю станоўчых эмоцый і ўражанняў. Больш за тое – вы проста ўчыняеце злачынства перад сваімі выхаванцамі. Хто яшчэ ўвядзе іх у захапляльны свет пазнання навакольнай рэчаіснасці не па падручніках, а ў сапраўднасці, наяве.*

## Некалькі довадаў на карысць актыўнага турызму

**Па-першае**, масавы самадзейны турызм – з'ява сацыяльная. Ніводзін від калектыўных узаемін не дазваляе настолькі згуртоўваць людзей. Тут не маюць значэння ўзрост, палітычныя і рэлігійныя перакананні, узровень фізічнага і інтэлектуальнага развіцця, сацыяльны статус і матэрыяльнае становішча. Узаеміны ў турысцкім асяроддзі фарміруюць у чалавеку цярпімасць да чужых звычак, ладу жыцця (калі ён, вядома, не амаральны), вучыць узаемавыручцы, дабрыні. Я ні разу не сустракаў ізгояў сярод турыстаў. Яны або не прыжываюцца, або прымаюць лад жыцця і ўзаемін, які дыктуе калектыў. Прытым адбываецца гэта не па прымусу. Чалавек, які палюбіў песні ля вогнішча, водар хвой над абрывістым берагам ракі, пачуццё пляча сябра, не захоча страціць усяго гэтага з-за сваіх амбіцый і капрызаў. У такія моманты кожны для сябе вырашае, што для яго важней – самалюбства і эгаізм або новыя сябры і новае адчуванне жыцця. Актыўны турызм – невычэрпная крыніца ўзаемін. Калі людзі разам пераадольваюць цяжкасці, калі разам адчуваюць эмацыянальны ўздым ад аднаго і таго ж – нябачная ніць звязвае і радніць іх.

**Па-другое**, турызм – выдатны від псіхаэмацыянальнай і фізічнай рэлаксацыі арганізма, загартоўвання і агульнага развіцця. У актыўным турызме даецца нагрузка на ўсе групы мышц чалавечага цела – гэта дазваляе трэніраваць вынослівасць і адаптагенныя ўласцівасці арганізма. Лядовых палацаў, тэнісных кортаў, стадыёнаў, спартзалаў, яхтклубаў ніколі на ўсіх не хопіць. Для турызму ўсяго гэтага не трэба – дастаткова выехаць за горад.

**Па-трэцяе**, актыўны турызм – эфектыўны шлях экалагічнага выхавання. Ён дапамагае дасягнуць гармоніі з прыродай праз экалогію душы. Любы турыст, асабліва той, які прайшоў складаныя катэгарыйныя маршруты, вам раскажа, як на сабе адчуў, што значыць быць часткай прыроды: не пакараць, не адваёўваць, а суіснаваць. Або ты з прыродай, або цябе няма. Гэтак жа і з чалавечай душой – або ты жывеш у адзінстве са сваім унутраным "Я", або не жывеш увогуле. Любы налёт карыслівасці, эгаізму, самалюбства знікае дзе-небудзь пад грукат лавін і каменяпадаў проста ад асуджальнага позірку таварыша. Аб'ектыўныя цяжкасці і небяспека ачышчаюць чалавека. Памятаеце, як у песні Высоцкага?..

**Па-чацвёртае**, цяжка пераацаніць пазнавальны бок турызму. Чалавек спрадвеку пазнае навакольны свет. Ён імкнецца спасцігнуць сутнасць рэчаў, пачаўшы даследаваць тое, што знаходзіцца ў суседняй даліне, і заканчваючы глыбінямі акіяну і космасу. Калі б усе людзі больш падарожнічалі, пазнавалі свет і народы, якія яго насяляюць, ва ўсёй разнастайнасці ўкладаў і стыляў жыцця, веравызнанняў, калі б вучыліся быць жаданымі гасцямі і гасціннымі гаспадарамі, то колькіх лакальных канфліктаў і варожасці можна было б пазбегнуць. Са старажытных часоў паважанымі і ўдалымі палітыкамі былі тыя, хто, падарожнічаючы, пранікаўся духам розных эпох і народаў, вучыўся аб'ядноўваць грамадства і кіраваць ім, улічваючы нацыянальныя асаблівасці сваіх грамадзян.

**Па-пятае**, актыўны турызм – не для абібокаў. Ён фарміруе актыўную жыццёвую пазіцыю. Чалавек, праяўляючы актыўнасць у турыстычным паходзе, будзе такім жа і ля станка, у навуковай лабараторыі, дзяржаўнай установе. Актыўны турызм – гэта не проста захапленне, гэта лад жыцця і падыходу да жыццёвых праблем. Не падрыхтаваў начлегу – пакутуй ад холаду, не здабыў агню, не прыгатаваў ежы – пакутуй ад голаду, не змог залячыць раны, пазбавіцца ад хваробы – пакутуй ад гангрэны. Гэта, безумоўна, крайнія выпадкі. Часцей усё не так драматычна. Але двух варыянтаў у турыстычным паходзе не бывае: толькі ты сам клапоцішся пра сябе і пра таварыша.

Можна яшчэ прадоўжыць – па-шостае, па-сёмае і г.д. Але галоўнае – трэба быць паэтам, мастаком, музыкантам, каб выказаць свае пачуцці ад таго, што бачыш, перажываеш кожнай клетачкай сваёй душы і цела, падарожнічаючы з рукзаком за плячыма, на байдарцы, веласіпедзе або з ліхтарыкам-"цыклопам" апускаючыся ў падземныя залы карставых поласцей. Пра ўсё гэта лепш раскажуць аўтарская песня, фільмы і фатаграфіі паходаў і ўзыходжанняў.

Гэтыя словы – не агітацыя за турызм. Ён быў, ёсць і будзе, набываючы ўсё новых і новых прыхільнікаў. Вядома, кожны чалавек сам робіць выбар. Але для тых, хто жадае пазбавіцца шэрасці жыцця, – некалькі парад, як ператварыць "захапленне па інтарэсах" (як прынята называць у педагагічнай практыцы) у дзейсны выхаваўчы механізм пры рабоце з дзецьмі і моладдзю.

Першым этапам для вас, калі вы ўпершыню вырашылі прыняць удзел у паходзе, будзе маленькі лікбез з самастойнымі практычнымі заняткамі. Бяром у разлік найгоршы варыянт, калі вам няма да каго звярнуцца па дапамогу і параду і вы вымушаны самі спасцігаць азы турысцкіх навыкаў.

Напачатку прыміце той факт, што нічога страшнага ў падарожжах па лясной мясцовасці няма. Усе цяжкасці і небяспека, якія падпільноўваюць вас там, аб'ектыўныя, даўно вядомыя, а значыць можна да іх падрыхтавацца і навучыцца пераадольваць. У горадзе куды больш непрадказальнай рызыкі, якая звязана з чалавечым фактарам, што, як вядома, немагчыма прадугледзець. Немагчыма прадбачыць недысцыплінаванага вадзіцеля на дарозе, істэрычныя паводзіны натоўпу, якія вядуць да гібелі і сур'ёзных траўм людзей, немагчыма ведаць загадзя хуліганскія выхадкі, трагедыі з-за свавольства дзяцей на будоўлях і іншых небяспечных аб'ектах. Таму выкарыстоўвайце любую магчымасць выравць хоць ненадоўга з горада сваіх блізкіх і падапечных.

## Прыемныя клопаты

Прадумайце, складзіце загадзя маршрут і план падарожжа. Кіравацца ў выбары маршруту трэба схільнасцямі і інтарэсамі як сваімі, так і спадарожнікаў. Калі яны не супадаюць, камбінуйце. Адным – цікавы маршрут, які прадугледжвае знаёмства з гістарычнымі і прыроднымі помнікамі, мясцінамі, звязанымі з вядомымі людзьмі, фальклорнымі, этнаграфічнымі аб'ектамі; другім – багатая праграма: мерапрыемствы, гульні, збор грыбоў, ягад, прыроднага матэрыялу для вырабаў, фотазамалёўкі, песні ля вогнішча, паэтычныя чытанні на ўлонні прыроды і многае іншае. Фантазія сама падкажа вам, чым запоўніць час на маршруце і на прывале. Акрамя таго, вы маеце выдатны шанц замацаваць пройдзены або выкласці новы матэрыял па свайму прадмету незалежна ад тэмы.

Для выкладчыкаў прыродазнаўчых навук наваколле горада – наогул своеасаблівая лабараторыя. Для любой тэмы можна знайсці наглядныя дапаможнікі ў самой прыродзе і ў цікавай форме разабраць з вучнямі сутнасць некаторых працэсаў і з'яў. Выкладанне многіх тэм гісторыі, асабліва нацыянальнай, можна ўзбагаціць за кошт магчымасці паказаць у паходзе сляды пэўнага гістарычнага перыяду ў архітэктуры, месцы баёў, асаблівасці народнага побыту і промыслаў.

Пра магчымасць цікавага ўрока геаграфіі або біялогіі наогул гаварыць залішне. Вы адчуеце, наколькі прыемней бачыць зваротную сувязь з аўдыторыяй, пазбаўленай непасед і парушальнікаў дысцыпліны. Нязмушаная абстаноўка, адсутнасць адзнак робяць смялейшымі нават ціхіх троечнікаў.

Не ўздумайце пераносіць з-за парт у лес пастаянныя заўвагі і кантроль, калі дзеці не вельмі жадаюць займацца па прадмету. Пашукайце прычыну ў матэрыяле. Цікавым і карысным будзе выкладанне не канкрэтнай тэмы са школьнай праграмы, а абагульнены курс прадмета, звязаны з тым, што будзе ў вас на маршруце.

Не варта браць у паход увесь клас. Памятайце пра палітыку бізуна і перніка. Захапіце вучняў ідэяй паходу, натхніце расказамі і фатаграфіямі (не важна – сваімі, чужымі або наогул з часопісаў і праспектаў), стварыце атмасферу падрыхтоўкі да надзвычай цікавага і захапляльнага мерапрыемства. Гэта будзе нескладана. Адчуўшы жывую цікавасць і ўсеагульнае імкненне ўдзельнічаць у паходзе, паведаміце, што нехта пакуль не заслужыў права ісці з усімі... Для іх гэта будзе выдатным стымулам змяніцца да наступнага паходу. У любым выпадку абмежаванне турысцкай групы па колькасці – гэта вымушаная мера: не маючы дастатковага вопыту, у першы паход бярыце не больш як 10–12 чалавек. Абавязкова павінен быць другі дарослы ў групе. Добра, калі гэта будзе бацька аднаго з вучняў. Па-першае, вырашыцца праблема з дровамі для кастра, па-другое, вам будзе спакайней, па-трэцяе – няма лепшага спосабу выхавання, чым асабісты прыклад. Хлапчукоў не трэба будзе прымушаць удзельнічаць ва ўладкоўванні лагера, нарыхтоўцы дроваў і г.д. Дастаткова часам прысароміць каго-небудзь кволасцю і адсутнасцю мужчынскіх якасцей, не ўказваючы на гэта прама, а ўскосна – ухваляючы некага іншага.

Гультаёў у паходзе не павінна быць. Усе ўдзельнічаюць ва ўладкаванні лагера, гатаванні ежы, нарыхтоўцы дроваў. Перад паходам абавязкова трэба размеркаваць абавязкі ў групе. Растлумачце іх дзецям і даручыце падрыхтавацца да іх выканання самастойна (калі яны на гэта здатныя) або дапамажыце разабрацца кожнаму персанальна. Гэта яшчэ лепш – надасць значнасці і адказнасці за даручаныя абавязкі. На розныя "пасады" кандыдатаў лепш выбіраць галасаваннем або па асабістых жаданнях вучняў, але, суадносячы з іх магчымасцямі. Кожны павінен мець даручэнне.

## Размеркаванне абавязкаў у групе

**Загадчык гаспадаркі** – гэта турысцкі "прапаршчык", самы важны пасля кіраўніка чалавек. Яго задача – скласці меню і раскладку прадуктаў на паход, няхай нават аднадзённы, падабраць неабходны групавы рыштунак, весці ўлік і кантроль за размеркаваннем усяго гэтага па рукзаках. Нагрузка на ўсіх павінна быць аднолькавай. У дзяўчынак – крыху меншай, у хлопчыкаў – крыху большай (але з улікам фізічных магчымасцей).

**Хранаметрыст** – па сутнасці сакратар групы. Ён вядзе запіс хронікі і шляху руху, адлюстроўвае на схеме маршрута і ў апісанні размяшчэнне цікавых аб'ектаў, зручных месцаў для стаянак. Гэты чалавек павінен асвоіць тапаграфічную карту, умець схематычна адлюстраваць мясцовасць і абазначыць на схеме маршрут, фіксаваць час праходжання асобных участкаў і спосабы пераадолення або абходу цяжкіх перашкод – рэк, ручаёў, балот, кар'ераў, густых зараснікаў.

**Фатограф, відэаапэратар.** Важнасць гэтага чалавека ўсведамляецца звычайна пасля паходу, калі ўдзельнікі арганізуюць турысцкі вечар у класе, школе. Дзіця павінна валодаць эстэтычным густам, быць рухомым, не ленавацца забегчы наперад, узабрацца на горку, каб убачыць і зняць усё у цікавым ракурсе. Безумоўна, патрэбны навыкі абыходжання з фотаапаратам, відэакамерай.

**Санінструктар** займаецца падборам медыцынскай аптэчкі, вывучае і асвойвае прыёмы аказання даўрачэбнай дапамогі, праводзіць медыцынскія тэсты і заносіць паказчыкі ў журнал, суправаджаючы іх тлумачэннямі. Напрыклад, замер пульса ў паходзе да пад'ёму на горку і пасля, аднаўляльнасць пульса праз 1, 2, 5 хвілін; скачок у даўжыню з месца перад пачаткам паходу, у сярэдзіне, на прывале, і ў канцы; вастрыня зроку за дзень да паходу, пасля школьных заняткаў, і ў канцы паходу; затрымка дыхання (у секундах) да паходу і ў канцы.

**Летапісец-рэпарцёр** адлюстроўвае ўсё, што адбываецца ў паходзе, робіць нататкі аб настроі ўдзельнікаў, каб потым узнавіць атмасферу паходу ў артыкуле, нататцы ў школьную газету, у справаздачы аб паходзе.

**Метэаролаг** вядзе назіранні за надвор'ем і фіксуе іх у журнале. Вызначае сутачныя ваганні тэмпературы, пачынаючы рабіць гэта яшчэ да паходу, каб зарыентаваць удзельнікаў, якія рэчы браць з сабой. Тэрмометр трэба ўзяць з сабой, гігрометр можна змайстраваць з дапамогай настаўніка фізікі або геаграфіі, барометрам (пры адсутнасці сапраўднага) можа паслужыць напалову надзьмуты паветраны шарык пры зафіксаваным з дапамогай пакаёвага барометра атмасферным ціску. Замяраючы на працягу паходу даўжыню папярочнага і падоўжнага сячэння шарыка кушнерскім сантыметрам, пасля паходу, з дапамогай настаўніка фізікі або матэматыкі, можна вылічваць змяненне ціску.

**Кастравы** – "праметэй", які ўмее абагрэць групу і ў дождж, і ў мароз, расклаўшы агонь з сырых дроў, забяспечыўшы дзяжурных неабходнымі для прыгатавання ежы прыладамі.

**Забаўніку** даручыце падрыхтаваць усё для актыўнага правядзення вольнага часу. У вас будзе шмат хвілін на прывалах – выкарыстайце іх цікава. Футбол, валейбол, бадмінтон, рухомыя гульні, конкурсы – усё гэта разнастаіць і дапаўняе турысцкі паход.

**Эксперт-прыродазнаўца** павінен загадзя з настаўнікамі біялогіі, малявання, працы абмеркаваць, якія прыродныя матэрыялы, гербарыі могуць спатрэбіцца на ўроках, а ў паходзе – далучыць усіх да збору ўсяго гэтага.

Гатуюць ежу ў паходзе ўсе па чарзе, але пры жаданні можна прызначыць **шэф-кухара**, даручыць яму сумесна з загадчыкам гаспадаркі прадумаць меню і з дапамогай дзяжурных прыгатаваць смачны абед і вячэру.

Размеркаваць іншыя абавязкі і даручэнні ў паходзе вам падкажуць фантазія і самі дзеці. Акрамя таго, кожнае з пералічаных даручэнняў можа быць размеркавана паміж двума-трыма ўдзельнікамі. Такім чынам, усе будуць заняты справай.

## Выбар маршруту

Лепш, калі пачатковы і канцавы пункты будуць прывязаны да прыпынкаў электрычкі або апошняй станцыі аўтобуснага маршруту (у адваротным выпадку вы рызыкуеце не сесці ў аўтобус у час дачнага сезона). Для аднадзённых паходаў па Беларусі працягласць павінна быць у межах 15 км для дзяцей да 12 гадоў і 20 км для дзяцей 13–15 гадоў. Калі даўжыня маршруту акажацца большай, паход можа ператварыцца ў хуткасны забег, і вы не паспееце ні агледзець славутыя мясціны, ні пагуляць, ні паесці, ні своечасова вярнуцца дадому.

Напачатку выбірайце маршрут у густа- або сярэдненаселенай мясцовасці – гэта аблегчыць вам жыццё ў выпадку, калі вы саб'ецеся са шляху. Пажадана, каб маршрут не перасякаў ажыўленыя аўтастрады, рэкі ўброд і балоты. Пакіньце гэтыя цяжкасці і небяспеку на будучыя гады. Лягчэй рухацца і арыентавацца ў лесе, калі хадзіць не па азімуце, а па лясных дарогах і прасеках. Хаджэнне па азімуце будзе вашым наступным этапам.

Вы можаце значна аблегчыць сабе задачу, калі пашукаеце ў бібліятэцы кнігі з апісаннем папулярных турысцкіх пешых і лыжных маршрутаў. Часцей за ўсё яны 3–7-дзённыя працягласцю ад 45 да 160 км. Але вы можаце выбраць для сябе любы з участкаў у названых вышэй межах з улікам зручнасці прыезду-ад'езду.

Згаданыя ў апісанні маршрута славутыя мясціны і аб'екты шукайце ў даведніках па гісторыі, культуры, архітэктуры, прыродзе Беларусі. Даручыце ўдзельнікам зрабіць па іх паведамленні – так будзе цікавей і карысней.

## Неабходны рыштунак і прылады

Першымі крокамі ў турызме будуць аднадзённыя паходы па маляўнічых кутках вашага горада, пасёлка. Для гэтага дастаткова невялікага рукзачка аб'ёмам ад 20 літраў. У яго павінны змясціцца пара запасных шкарпэтак, світэр і ветраахоўная куртка (можна – штармоўка) або толькі адна ўцепленая куртка, шапачка, калі ідзяце ў бандане, калі не – у куртцы абавязкова павінен быць капюшон. Калі носіце штаны (ветраахоўныя або джынсы), дык у рукзак пакладзіце баваўнянае або паўшарсцяное трыко. Ніякіх спецыфічных патрабаванняў да адзення няма: пазбягайце сінтэтыкі ў бялізне і сподні адзенні, усё павінна быць з натуральных або паўнатуральных тканін, вопратка не павінна замінаць рухацца, пераціскаць сасуды, шчыльна аблягаць цела.

Самым непрыемным падарункам для бацькоў пасля паходу з'яўляецца прастуда дзіцяці. Таму выконвайце нескладаныя правілы: ісці лепш у лёгкім адзенні, якое не прадзімаецца. На прывале, біваку дастаньце цёплы запас і адзеньце на разагрэтае цела. Інакш ёсць шанц прастудзіцца. Ваш пастаянны спадарожнік у Беларусі – вецер і скразнякі. Прамоклыя ногі – не самае страшнае, калі вы пастаянна рухаецеся. Сушыць абутак над кастром нельга, калі толькі ён не прызначаны для распальвання. Лепш у такой сітуацыі надзець лішнія шкарпэткі, каб абутак аблягаў нагу шчыльней і не націраў мазалёў.

Палатку браць абавязкова (яе адсутнасці дзеці не даруюць). Патрэніруйцеся яе правільна і хутка расстаўляць. Акрамя таго, яе можна выкарыстоўваць для многіх турысцкіх гульняў, складваць у яе рэчы ў выпадак дажджу. Але палатка ўсё ж больш для антуражу. Важней (з пункту гледжання практычнасці) у дрэннае надвор'е мець тэнт: поліэтыленавы, а лепш – авізентавы, перкалевы або з каландрыраванага капрону – "серабранкі". Нацягнуўшы паміж дрэвамі капронавы фал (вазьміце 25 метраў) і перакінуўшы праз яго тэнт, адцягніце ад ражкоў тэнта расцяжкі, замацуйце іх на калках або дрэвах. У вас атрымаецца двухсхільны дах, які абароніць вас ад дажджу. Акрамя таго, у кожнага ўдзельніка павінна быць поліэтыленавая накідка ад дажджу, якая свабодна накрывае яго разам з заплечнікам. Карты і схемы павінны быць схаваны ад вільгаці і бруду ў поліэтыленавыя пакеты. Адзенне ў заплечніку павінна быць таксама ў поліэтылене. Гэтак жа, як і намоклы абутак, мокрае і вільготнае адзенне нельга мяняць у час руху. Толькі ў выпадку, калі вам больш не пагражае спацець або намокнуць: на прывале, у канцы паходу.

Калі няма турысцкіх кацялкоў, іх можна змайстраваць са старых алюмініевых каструль, прасвідраваўшы (прабіўшы цвіком) па дыяметру дзве дзіркі, прасунуўшы і замацаваўшы стальны плецены дрот. Няхай хлопчыкі на ўроку працы зробяць два Y-падобныя штыры з вострым канцом са стальных прутоў дыяметрам 5–6 мм. Загнаўшы ля вогнішча два драўляныя калкі і забіўшы ў іх гэтыя штыры, вам застанецца толькі пакласці зверху перакладзіну і павесіць кацялкі. На ўроках працы можна зрабіць і S-падобныя падвесы для кацялкоў з таго ж матэрыялу дыяметрам 4–5 мм.

Каб распаліць агонь, вазьміце сухое гаручае або кавалкі плексігласа (арганічнага шкла). Папера хутка згарае і, калі дровы складзены няўдала, не распальвае агонь. Сякера, нажоўка або двухручная піла будуць не лішнімі. Але калі група складаецца з малодшых школьнікаў і сярод дарослых няма мужчыны, лепш не цягнуць лішні цяжар. Для дроў хапае сухога ламачча, а перакладзіну над вогнішчам і калкі можна замяніць нацягнутым паміж дрэвамі плеценым стальным шнуром, пад якім раскладаецца агонь і вешаюцца катлы. Спатрэбяцца вам невялікая цырата, два нажы, дошчачка для нарэзкі, чарпак, прылады для мыцця посуду. Можна, вядома, усе прадукты нарэзаць і намазаць дома, але ў паходзе з дзецьмі важны сам працэс.

Няхай удзельнікі не забудуць дома прадметы асабістай гігіены, а таксама міску, конаўку і лыжку. Акрамя таго, у залежнасці ад узросту ўдзельнікаў і іх схільнасцей, – сшытак, альбом для малявання, алоўкі, мячы, ракеткі і іншыя атрыбуты актыўнага адпачынку.

**Сяргей ЗАГАДСКІ.**

***P.S. У наступных выпусках "Вандроўніка" чытайце пра тактыку руху ў паходзе, арганізацыю бівуакаў і прывалаў, маленькія турысцкія хітрыкі.***



## Аперацыя "Пешаход"

Апошнім часам у сталіцы абвастрылася сітуацыя з захаваннем бяспекі дарожнага руху, пра што сведчыць павелічэнне колькасці дарожна-транспартных здарэнняў. Асноўная частка пацярпелых – пешаходы. Так, з пачатку 2002 года ў Мінску адбылося 275 ДТЗ, у якіх загінулі 32 чалавекі і 289 параненых. Па віне пешаходаў здарылася 19 аварый са смяротнымі вынікамі, а наезды на пешаходаў склалі 73 працэнты ад агульнай колькасці ДТЗ.

Улічваючы такую сітуацыю, УДАІ ГУУС Мінгарвыканкама правяло серыю мерапрыемстваў пад назвай "Пешаход".

Паважаныя пешаходы! Ад вашых паводзін залежыць ваша бяспека. Памятайце: транспарт імгненна спыніць немагчыма!

**Анатоль ЧАЛЕНКА,**
**старшы інспектар ДАІ**
**Партызанскага РУУС Мінска.**


**Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук**

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Рэгістрацыйны нумар 197.**

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны прыёмнай рэдакцыі: 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-90-63, 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-53-22; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання — 36-43-71; інфармацыі — 36-43-71; навукі і ВНУ — 36-44-25; кіравання адукацыяй, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.
ФАКС: 36-53-22, bng@e-mail.ru

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, несуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Вольга ДУБОЎСКАЯ.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», 220013, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12. Заказ № 3186
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 22.5.2002 г. у 18.10
Тыраж 30.000 экземпляраў.